

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

11 ліпеня 1997 г. № 74 Кошт свабодны

## Скандал саюзнага маштабу

**Скандал, што разгарэўся пасля пазбаўлення карэспандэнта ОРТ Паўла Шарамета акрэдытацыі, стаў асноўнай тэмай учарашняга брыфінгу міністра замежных справаў Беларусі Івана Антановіча.**

Нагадаем, што напярэдадні прэм'ер расійскага ўраду В.Чарнамырдзін, а таксама першы віцэ-прэм'ер Б.Нямцоў далі вельмі жорсткую ацэнку дзеянням беларускіх уладаў у дачыненні да журналіста расійскага тэлеканала, заявіўшы, што *«ў Расіі хопіць сіл і сродкаў абараніць сваіх журналістаў — хоць у Паўночнай Карэі, на Кубе, ці ў Беларусі»*.

Рэакцыя беларускага МЗС не прымусіла сябе чакаць, і гэты ж дзень у не менш жорсткіх фармулёўках была прынята чарговая заява, агучаная на брыфінгу Іванам Антановічам. *«Замест адэкватнага рэагавання і спробаў разабрацца ў складзеным становішчы працягваецца эскалацыя абвінавачванняў, якія могуць быць кваліфікаваныя як жаданне яшчэ больш абвастрыць сітуацыю і ўмяшацца ва ўнутраныя справы суверэннай Беларусі»*, гаворыцца ў заяве. МЗС Беларусі назваў палітыку расійскіх СМІ *«інфармацыйнай вайной»*.

На брыфінгу было паведамлена, што Аляксандр Лукашэнка адмовіўся наведаць мадрыдскую сустрэчу *NATO* паводле папярэдняга ўзгаднення з Барысам Ельцыным. Беларускае кіраўніцтва па ранейшаму лічыць пашырэнне *NATO «гістарычнай памылкай»*. Пры гэтым акцэнты міністэрства замежных справаў значна памяняліся і цяпер афіцыйны Мінск не прымае пашырэння менавіта ваеннай інфраструктуры блока. Гэткая гнуткасць фразеалогіі афіцыйнага Мінска, на думку назіральнікаў, тлумачыцца рэальнай небяспекай апынуцца за бортам перамоўнага працэсу, бо пасля падпісання асобнай дамовы *NATO* з Расіяй і Украінай Брусель не спяшаецца адгукнуцца на адпаведныя прапановы беларускага боку. Аднак Іван Антановіч паведаміў, што днямі Аляксандр Лукашэнка атрымаў ліст ад генеральнага сакратара *NATO* Х.Саланы, у якім дадзены адказ на прапанову Беларусі заключыць з *NATO* асобную хартыю. Але пра змест ліста міністр паведаміць адмовіўся. Замест гэтага Антановіч пачаў выказваць спачуванні Польшчы, Чэхіі і Венгрыі, якім, як вычытаў Іван Іванавіч у амерыканскай прэсе, давядзецца за свой кошт мадэрнізаваць уласныя арміі.

Пра спачуванне еўрапейскіх краінаў беларускаму кіраўніцтву міністр казаў неахвотна, заявіўшы, што сесія Парламенцкай асамблеі АБСЕ, дзе былі прызнаны паўнамоцтвы дэпутацыі Вярхоўнага Савета 13-га склікання, як адзінага легітымнага заканадаўчага органа, не мела права гэтага рабіць. У сувязі з гэтым Антановіч накіраваў у АБСЕ ліст. Міністр недвухсэнсоўна даў зразумець, што афіцыйны Мінск можа перагледзець раней дасягнутыя дамоўленасці з АБСЕ і ў першую чаргу гэта будзе тычыцца папярэдняе ўзгодненай дамоўленасці аб стварэнні сталага прадстаўніцтва АБСЕ ў Мінску па адсочванні сітуацыі з правамі чалавека.

**Яцэк ГАРБУЗОВІЧ**

*Учора Лукашэнка прымаў віншаванні з нагоды 3-годдзя свайго праўлення*



## Сумны юбілей

**«Сітуацыя ў Беларусі развіваецца па тых жа канонах, як развіваліся нацысцкі рэжым і лацінаамерыканскія дыктатуры».**

Такую выснову зрабіў былы міністр працы А.Сасноў на ўчарашняй прэс-канферэнцыі кіраўніцтва Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Старшыня АГП С.Багданкевіч ва ўступным слове пералічыў заслугі Лукашэнкі, які *«здолеў з'яднаць усю апазіцыю — ад камуністаў да лібералаў»*, а таксама той факт, што *«дзякуючы Лукашэнку, Беларусь праславілася на ўвесь свет»*.

С.Багданкевіч і Г.Карпенка падкрэслілі, што галоўным паказчыкам эканамічнай эфектыўнасці ёсць не нейкія высмактаныя з пальцаў лічбы, а жыццёвы ўзровень людзей. А ён падчас кіравання Лукашэнкі значна панізіўся — 80% грамадзян жывуць на ўзроўні ці ніжэй мінімальнага спажывецкага бюджэту.

Па словах Багданкевіча, у нашай краіне існуе два бюджэты: *«адзін з іх падкантрольны асабіста Лукашэнку і ягоным прыбліжаным. Вярхоўны Савет спрабаваў праверыць рахункі Ціцянкова, але быў разагнаны. Дыктатар Маркас, калі ўцякаў з Філіпінаў, вывез 76 млрд. доляраў. Колькі сродкаў, якія належаць народу Беларусі, скрала і яшчэ скрадзе лукашэнкаўская дыктатура — сёння не ведае ніхто»*.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Пазьняк прагназуе...

**«Можна чакаць, што да восені з боку Расіі будзе прапанавана чарговая канцэпцыя інтэграцыі, нават не канцэпцыя, а чарговы этап», — такі пункт гледжання выказаў старшыня Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк.**

Ён лічыць абсалютна відавочным, што *«рэжым Лукашэнкі ўсё больш уцягваецца ва ўнутрыпалітычную барацьбу за ўладу ў Расіі»*. Пацверджаннем гэтага, на думку З.Пазьняка, служыць выступленне прэзідэнта Лукашэнкі ў Краснадары, дзе *«ён выставіў пад крытыку палітычную групу Чубайса»*, а таксама яго зварот да расійскай правінцыі, «чырвонага электарату». На думку лідэра БНФ, *«палітычным сілам вызвольнага накірунку ў Беларусі нельга чакаць восені; трэба скарыстаць менавіта лета і цяперашнюю сітуацыю»*. Асноўнай палітычнай задачай, якая, на думку З.Пазьняка, стаіць перад Народным фронтам і іншымі вызвольнымі сіламі, — гэта дабіваццa адстаўкі Лукашэнкі.

Лідэр БНФ пераканаены, што *«перамовы Вярхоўнага Савета з адміністрацыяй прэзідэнта нічога не дадуць — яны выгадныя толькі Лукашэнку, каб манеўраваць»*. Зянон Пазьняк лічыць, што Вярхоўны Савет уступіў у перамовы з прэзідэнцкім бокам *«з пазіцыі сваёй слабасці», — такая пазіцыя «выгадная рэжыму»*. Лідэр БНФ назваў кансультацыі *«крокам да легітымізацыі існуючага рэжыму»*, паколькі ўсё гэта толькі *«на руку Лукашэнку»*.

*БелаПАН*

## Украіна адмовілася фінансаваць «базар»

**Сёння ў Віцебску стартуе міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар».**

А 20 гадзіне ў летнім амфітэатры на 5 тысяч месцаў пачнецца афіцыйнае цырымонія адкрыцця фестывалю з удзелам «вождя всех славян» прэзідэнта Лукашэнкі. На канцэртах, якія працягнуцца да 16 ліпеня, пакажуць сваё майстэрства Сафія Ратару, Валерый Лявонцьеў, Людміла Зыкіна, Філіп Кіркораў, Аляксандр Саладуха, «Песняры», «Иванушки интэрнэшнл» і іншыя. Вядомы мастацтвазнаўца Святаслаў Бэлза выступіць у якасці вядучага «Музычнай гасцёўні» з удзелам зорак Анатоля Салаўяненкі, Бісера Кірава і Сяргея Захарава. Менавіта гэтая частка фестывальнай праграмы значна павышае эстэтычны ўзровень «Славянскага базара», які ўспрымаецца як парад пасрэдных эстрадных «ідалаў». Асноўнае, што прыцягвае вытворцаў шлягераў на «Славянскі базар» — гэта ганарары. Асабліва шчодрая рука ў прэзідэнта Лукашэнкі. Як паведамілі ў дырэкцыі міжнароднай карпарацыі «Славянскі базар», «фестывальныя» (а гэта дзесяткі тысяч доляраў) ўзяла на сябе паравую Беларусь і Расія. Суседняя Украіна, якую спрабуюць заказваць у славянскі саюз, адмовілася выступаць у якасці сузаснавальніка фестывалю ў Віцебску. Як сказаў прэзідэнт міжнароднай карпарацыі «Славянскі базар» Сяргей Віннікаў, украінскі міністр культуры і былы прэм'ер-міністр афіцыйна заявілі, што Украіна не будзе фінансаваць арганізацыю і правядзенне базару *«з-за финансавых складностей у краіне»*. Украіна, а таксама Югаславія і Балгарыя, згадзіліся аплаціць толькі ўдзел сваёй дэлегацыі. Нагадаем, што на 12 ліпеня прызначаны Дзень украінскай культуры і юбілейны канцэрт Сафіі Ратару.

У канцэртах «Славянскага базару» возьмуць таксама ўдзел артысты з Польшчы, Казахстана, Ізраіля. Кошт білетаў вагаецца ад 30 тысяч на канцэрты дзіцячых шоў-праграм да 400 тысяч на выступленні вядомых эстрадных артыстаў. Арганізатары фестывалю спадзяюцца на аншлагі. Адбудуцца толькі два дабрачынных канцэрты дзіцячых калектываў для інвалідаў і ветэранаў. Як паведамілі ў прэс-цэнтры «Славянскага базару», дабрачынныя канцэрты для дапамогі ахвярам урагану і бацькам дзяцей, якія загінулі ў аўтакатастрофе пад Кобрынам, не плануюцца.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Літоўская дапамога пацярпелым ад урагану

Урад Літвы прыняў пастанову аб аказанні гуманітарнай дапамогі насельніцтву Мінскай і Брэсцкай абласцей, якія пацярпелі ад урагану. Як паведамілі ў літоўскім пасольстве, грошы ў памеры 500 тысяч літаў (каля 125 тысяч доляраў ЗША) будуць выдзеленыя беларускаму боку з фонду ўрада Літоўскай Рэспублікі.

*БелаПАН*

## Знавец паехаў у Амерыку

**10 чэрвеня зямлю Беларусі пакінуў вядомы апазіцыйны дэпутат Павел Знавец.**



Па словах самаго Паўла, ён не збіраецца ставаць чарговым беларускім палітычным эмігрантам. Хаця ў дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання ёсць усе падставы лічыць сябе ахвярай палітычных рэпрэсій: тры разы ён быў зняволены на 5 сутак, неаднаразова штрафаваўся.

Знавец запрошаны ў Амерыку на тры месяцы Беларуска-амерыканскім задзіночаннем і ў яго планецца насычаная праграма сустрэч. У прэс-службе Сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) растлумачылі, што Знавец таксама будзе выконваць у ЗША шэраг партыйных даручэнняў.

Акрамя таго на амерыканскай зямлі павінна адбыцца, бадай, самая знамянальная ў жыцці Паўла падзея. Малады палітык, якому 14 ліпеня спаўняецца 30 гадоў, плануе ўзяць шлюб са сваёй нявестай — мінчанкай, якая цяпер часова знаходзіцца ў ЗША. Цырымонія вянчання адбудзецца ў храме, які належыць Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царкве.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

## Танней за ўсё вучыцца ў чацвёртым класе

**Чыноўнікі міністэрства адукацыі доўга стукалі па кнопках калькулятараў і нарэшце падлічылі, колькі павінны плаціць бацькі за школьныя падручнікі для сваіх дзяцей.**

СВАБОДА ўжо інфармавала чытачоў, што рэформа школьнай адукацыі на сённяшні дзень звялася толькі да аднаго канкрэтнага кроку — увядзення платы за карыстанне падручнікамі. Прычым адпаведныя сумы будуць браць ва ўсіх сярэдніх навучальных установах — агульнаадукацыйных школах, дзіцячых садках са школьнымі групамі, гімназіях, ліцэях і вучылішчах алімпійскага рэзерву (плата за мячы і лыжы пакуль не прадугледжваецца).

Гэта значыць, што за камплект падручнікаў, які выдаюць у школьнай бібліятэцы, патрабуецца заплаціць пэўную суму — у залежнасці ад таго, у які клас ходзіць вашае дзіця. Грошы неабходна аддаць да 1 кастрычніка, інакш школьніку давядзецца рыхтаваць хатнія заданні толькі ў бібліятэцы, ніводнай кніжкі дадому яму не дадуць. Пасля заканчэння навучальнага года ўсе падручнікі трэба будзе вярнуць.

Не трэба плаціць за падручнікі ў спецыялізаваных школах і інтэрнатах, класах для дзяцей з недахопамі разумовага і фізічнага развіцця, а таксама ў школе лагера «Зубраня» на Нарачы. Акрамя таго, плата не бярэцца з тых сем'яў, дзе сукупны даход на члена сям'і у месяц не перавышае трох мінімальных зарплат, і з бацькоў-інвалідаў. Бясплатна могуць вучыцца і дзеці-сіроты. Для сем'яў, дзе ў школу ходзіць трое або больш дзяцей, кошт карыстання падручнікамі зніжаецца на 50%.

У пачатку восені, калі дзіця ідзе ў школу, у многіх сем'ях звычайна бывае туга з грашыма: адпускныя патраціліся, а да новай зарплаты яшчэ трэба дажыць. Таму, плануючы бюджэт, варта прадугледзець і выдаткі на школьныя падручнікі. Як вызначана ў «Палажэнні аб парадку спагнання платы за карыстанне падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі», для першакласніка сума складзе 130.900 рублёў. Для другога класа кніжкі на год каштуюць крыху менш — 101.200 руб., для трэцяга — 94.500. Найменшыя выдаткі чакаюць бацькоў, чые дзеці пойдуць у чацвёрты клас — 74.200 руб. Пачынаючы з пятага класа (114.500 руб.) цана ўзрастае, у сёмым класе пераадольвае рысу у 200 тысяч і для выпускніцкага ўжо 294.500 рублёў.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Квоты на вываз грыбоў і ягад

**Брэсцкі аблвыканкам устанавіў памеры квот на вываз за межы Беларусі лясных ягад, грыбоў і лекавых раслін.**

Цяпер кожны грамадзянін, які ідзе ў лес з камерцыйным інтарэсам, павінен мець пры сабе «лясны білет». Кожны, хто вывозіць лясныя багацці за мяжу (прыватная асоба або арганізацыя), павінен мець даведку аблвыканкама, якая б пацвярджала выкананне квоты, і ліцэнзію міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя на прамысловую нарыхтоўку або закупку «ляснои» прадукцыі.

*БелаПАН*

## Сацыял-дэмакратычнае турнэ

**Віцэ-прэзідэнт парламента нямецкай зямлі Шлезвіг-Гальштэйн Габрыэль Кёчаў пабывала днямі ў Гомелі.**

Прадстаўніца Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі прыехала ў Беларусь, каб пазнаёміцца са станам нашай сацыял-дэмакратыі. У паездках сп-ню Кёчаў суправаджае лідэр беларускіх сацыял-дэмакратаў Мікола Статкевіч.

На сустрэчы з гомельскімі дэмакратамі і прэсай Габрыэль распавяла пра 135-гадовую гісторыю нямецкай Сацыял-дэмакратычнай партыі і адказала на шматлікія пытанні. Акрамя Гомеля і Мінска, нямецкая госця збіраецца наведаць яшчэ 15 гарадоў краіны.

**Уладзімір СТАРЧАНКА**

## «Демвыбор России» – о ситуации в Беларуси

**Партия «Демократический выбор России» приняла заявление «О развитии событий в Беларуси».**

В заявлении подчеркивается, что Лукашенко обладает в Беларуси неограниченной властью, которой и пользуется в полной мере для подавления прав и свобод граждан. Отмечаются ночные аресты, заочные судебные процессы, *«мощнейший психологический террор против инакомыслящих»*. Специальное внимание обращается на травлю членов парламентской комиссии по правовой оценке деятельности Лукашенко, возглавляемой В.Гончаром.

Особый акцент в заявлении, делается на белорусско-российских отношениях. По оценке ДВР, *«Лукашенко использует союзный договор как отмычку к российским регионам»*. *«Не могут не вызвать недоуменного возмущения усилия Лукашенко по консолидации вокруг себя коммунистической и националистической российской оппозиции, бесцеремонное вмешательство в российские дела, уничижительные оценки российских политических деятелей, в том числе президента и правительства»*, — говорится в заявлении. «Демвыбор» серьезно озабочен действиями российских политиков, которые, оказывая поддержку Лукашенко, *«поддерживают и стремятся распространить на Россию диктаторский режим»*.

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

## Цэнзары «выразалі» фотавыставу

**У горадзе Кобрыне Брэсцкай вобласці ўладам не спадабалася фотавыстава «Палессе, якога мы не ведаем».**

Гэтая перасоўная фотавыстава едзе па па маршруце Брэст—Кобрын—Пінск—Мінск. Праект ажыццявіла група маладых даследчыкаў Варшаўскага універсітэта, у арганізацыі выставы ўзялі ўдзел пасольства Польшчы ў Беларусі, польскае консульства ў Брэсце, міністэрства культуры Беларусі, а таксама музеі тых гарадоў, дзе яна дэманструецца. Летась на працягу некалькіх месяцаў выстава экспанавалася ў Варшаве пад назвай «Сённяшнія людзі Палесся».

У аснове канцэпцыі — найбагацейшы палескі архіў этнасацыёлага Юзефа Абрэнскага (1905-1967 гг.) — больш як тысячы копій, негатываў і рукапісаў, якія сведчаць аб жыцці палешукоў розных гадоў. Менавіта гэтыя матэрыялы, а таксама працы маладых даследчыкаў, што праз 60 гадоў прайшлі па маршрутах Ю.Абрэнскага, складаюць цяперашнюю экспазіцыю і дазваляюць параўнаць быт жыхароў Палесся ў розныя гады. У рамках выставы ў кожным горадзе, дзе яна праходзіць, дэманструецца дакументальны фільм Максіміліяна Эмера і Ежы Маліняка «Палессе: рэпартаж з боку сумных песень», які ў 1936 годзе на фестывалі ў Венецыі быў узнагароджаны срэбным медалём.

Падчас экспазіцыі ў Кобрыне прадстаўнікі міністэрства культуры забаранілі выстаўляць шэраг фатаграфій, зробленых у самых глухіх паселішчах беларускага Палесся. На іх адлюстраваны сучасны побыт палешукоў, які мала чым адрозніваецца ад часоў шасцідзесяцігадовай даўнасці. У выніку выстава ў Кобрыне была датэрмінова згорнутая.

*БелаПАН*

ЦЭНЫ

## Сезон «прыгожай» каўбасы

Дзяржава хітра выбрала момант, каб павысіць цэны на мяса і мясапрадукты. Лета — час адпачынкаў, і, атрымаўшы адпускныя, многія людзі не так балюча ўспрымуць новыя цэннікі на мясных прылаўках.

### Карова даражэе

Мяркуючы па паліцах магазінаў, дэфіцыт паступова перадольваецца. Аднак сённяшнія харчы добра каштуюць — 100 тысяч рублёў і вышэй за кілаграм варанай каўбасы ўжо не рэдкасць, а тысяч 70 — амаль стандарт.

Павышэнне цэн прайшло па звыклай схеме. Спачатку, з 20 чэрвеня, былі паднятыя закупачныя цэны, прычым адразу на 27,3%.

Праз некалькі дзён рашэннем міністэрстваў выраслі так званыя фіксаваныя адпускныя цэны. А каб у людзей не было шоку, то рэзка абмежавалі гандлёвыя надбаўкі на розныя мясныя вырабы.

Па меркаванні спецыялістаў, гэта азначае, што гандляваць мясам пры высокіх затратах (адзін халадзільнік улетку колькі энергіі забярэ!) для большасці магазінаў стане нявыгадна.

### Плата за вакуум

Увогуле, як вынікае з міністэрскіх папер, кошт большасці гатункаў варанай каўбасы і сасісак не павінна перавышаць 80.300 рублёў. Аднак ёсць выключэнні. Пад фіксаваныя цэны не трапляюць фірмовыя каўбасы, якія робяць сумесныя прадпрыемствы па замежнай тэхналогіі пры выкарыстанні імпартовых спецый або замежнай абалонкі замест беларускіх кішак. Цэны могуць істотна павялічыцца і ў залежнасці ад упакоўкі. Напрыклад, герметычная вакуумная ўпакоўка ў поліэтыленавую плёнку дазваляе падняць цану адразу на 10%.

Такім чынам, эксперты прагназуюць, што асартымент беларускіх магазінаў у бліжэйшы час будзе складацца з таннай каўбасы, якая карыстаецца попытам, за якой будуць выстройвацца чэргі, і дарагой, добра ўпакаванай прадукцыі, якая будзе красавацца на прылаўках.

Гэтае павышэнне цэн не апошняе. Асноўнай прычынай росту цэн спецыялісты называюць вываз мяса ў Расію, дзе кошты нашмат перавышаюць беларускія. Пакуль, нягледзячы на рост беларускіх цэн, розніца яшчэ застаецца істотная. А значыць, каб беларускаму едаку хапіла беларускага мяса — давядзецца плаціць за яго больш грошай.

**Алесь САДОЎСКІ**

*Министерство торговли сочинило «Временные правила по торговле продукцией, содержащей элементы эротики»*

## Элементы эротики в розницу

Президентская вертикаль непосредственно приложит руки к «клубничке». Продавать продукцию с вышеупомянутыми «элементами» можно, лишь имея *«разрешение местных исполнительных и распорядительных органов»*.

На каждый товар, содержащий хотя бы один эротический элементик, продавец должен иметь заключение республиканской экспертной комиссии по предотвращению пропаганды порнографии, культа насилия и жестокости при министерстве культуры, так что минкульту тоже повезло.

Чиновники министерства торговли постарались от души и составили весьма внушительный перечень предметов, могущих содержать *«элементы эротики»*. Туда, помимо литературы по сексуальному просвещению и воспитанию, попала и такая продукция, как издания фольклора (сказки, анекдоты, частушки, песни и т.д.), обертки для жевательной резинки и презервативов и т.п. В списке есть и пункт о *«массовых периодических изданиях, не относящихся к эротическим»*. Эти издания могут использовать *«эротические компоненты»* (фотографии, рисунки, карикатуры, анекдоты, комментарии специалистов и др.), но, по мнению чиновников, данные материалы обязательно должны носить *«публицистическо-обличительный, юмористическо-сатирический или информационный характер и являться эпизодическими»*. Проявив недюжинную эрудицию, чиновники внесли в список такие вещи, как *«изделия, предназначенные для сексуального стимулирования»*, отдельные виды нижнего белья и т.п.

Надеемся, что данный материал не подпадает под категорию «содержащего элементы эротики». А печатные средства массовой информации, специализирующиеся на сообщениях и материалах эротического характера, с 1 августа будут продавать только запечатанными в непрозрачную упаковку.

**Марыля ЗЮЛЬЦЕНБАХЕР**

ВАЛЮТА

## 500 долларов – и ни центом больше

**Национальный банк очередным своим распоряжением изменил правила перемещения иностранной валюты через белорусскую границу.**

В то время как ввоз валюты на нашу территорию разрешен в любом количестве (при соблюдении существующего в республике таможенного законодательства), возможности вывоза СКВ значительно сокращены.

С 1 августа текущего года (когда период отпусков еще в самом разгаре) физические лица имеют право вывезти за пределы таможенной территории Беларуси лишь эквивалент не более 100 минимальных зарплат, что в переводе на доллары по рыночному курсу (примерно 30.000 белорусских рублей за доллар) составляет лишь 500 долларов США на человека — с такой суммой едва ли доедешь даже до бывших соцстран. Ранее разрешенная к вывозу сумма валюты составляла в пять раз больше — эквивалент 500 МЗП (то есть 2.500 долларов США на человека). Разница довольно существенная.

Есть и еще одно не менее странное нововведение — с 1 августа 1997 года пересылка иностранной валюты из Беларуси за рубеж разрешена в сумме, не превышающей 200 долларов США.

Сложно найти логичное объяснение действиям Национального банка, ведь невозможно всерьез предположить, что за счет подобных методов центральный банк планирует приостановить утечку валюты из страны — «налом» через границу она никогда и не «утекала». Максимальная же сумма безналичного перевода за границу в 200 долларов выглядит просто как издевательство. Что ж, теперь белорусскому населению придется помозговать над проблемами вывоза валюты, и, скорее всего, постепенно становиться на путь контрабанды. Есть, правда, еще один вариант вывоза денег — посредством пластиковых карточек. В в этом случае процент обналичивания денег получают иностранные банки.

**Вероника СТРОЕВА**

КАДРЫ



## Заплатили – и свободны

*Придя на стадион «Динамо», предприниматели обнаружили, что на их торговых местах начался ремонт*

Руководство ярмарки, расположенной на столичном стадионе «Динамо», с частными предпринимателями окончательно перестало считаться. На заранее оплаченных торговых местах местах начались ремонтные работы.

В верхней части территории стадиона выкладывают «плиточку». Красиво конечно, но предприниматели явно пострадали. Ведь аренда одного торгового места в верхней части стадиона стоит около 90 тысяч рублей в день. Оплата производится на квартал вперед. Сумма фиксированного налога на прибыль в выходной день составляет около 60 тысяч рублей, его уплата производится за месяц вперед. Совершив все необходимые платежи, предприниматели вдруг узнают, что купленных ими мест нет.

Взамен администрация предлагает площади в одном из самых отдаленных районов стадиона, куда покупатели не заходят хотя бы потому, что не знают об их существовании.

Сегодняшняя ситуация выглядит так: около 350 мест в верхней части стадиона уже «пущено» под ремонт. Такое же количество мест планируется забрать у предпринимателей в ближайшие дни. Причем, имея план проведения работ, руководство ярмарки не считает нужным предупреждать коммерсантов о грядущих переменах, видимо, считая, что «не стоит будоражить народ».

Тем не менее народ будоражится. Некоторые уже потребовали от дирекции ярмарки возврата арендной платы, поскольку работа на предоставленных взамен площадях заведомо нерентабельна. Кое-кто попытался обратиться в налоговую инспекцию с требованием вернуть уплаченные вперед суммы фиксированных налогов. Однако если претензии к динамовской администрации хотя бы теоретически могут быть удовлетворены (все-таки предприниматели вынуждены отказаться от торговых мест по не зависящим от них причинам), то обращения к налоговым органам бесполезны — уплаченные суммы возврату не подлежат.

Профсоюзные лидеры предпринимателей не исключают повторения массовых волнений на ярмарке, и, скорее всего, это лишь вопрос времени. Действительно, здесь есть от чего возмутиться: администрация ведет себя с людьми явно не по-человечески.

**Вероника СТРОЕВА**

*Зварот да беларускага народа*

# Калі ў доме гора...

У гэтыя дні Беларусь перажывае нацыянальную трагедыю. Спачатку ўраган разбурыў тысячы дамоў, загінулі і пакалечаныя людзі. Потым разбіўся аўтобус з чарнобыльскімі дзецьмі, чацвёра з іх загінулі, а шмат хто атрымаў сур'ёзныя раненні. Гора прыйшло ў многія сем'і.

Боль ахвяраў і іх родных падзяляе кожны сумленны чалавек Беларусі. Нам спачуваюць людзі з усяго свету. Толькі прэзідэнт А.Лукашэнка і ягонае атачэнне парушылі ўсе маральныя нормы.

Людзі яшчэ не адышлі ад шоку пасля шалёнага ўрагану, а прэзідэнт Беларусі замест таго, каб кінуць усё і хутчэй вярнуцца на радзіму, у гэты час з сочынскіх пляжаў накіраваўся ў Краснадар, дзе займаўся самарэкламай перад расійскімі выбаршчыкамі. Для яго асабістыя справы — палітычныя гульні з мэтай паказаць расіянам, хто можа ў іх быць самым лепшым прэзідэнтам, — аказаліся нашмат важнейшымі, чым лёс беларускіх людзей, якія пакутуюць ад гора.

Яшчэ плакалі маці загінуўшых і пакалечаных дзяцей, яшчэ маладзенькія грамадзяне нашай шматпакутнай краіны ляжалі ў трунах, а ўлады ўжо разгарнулі сваё святочнае шоў — з опернага тэатра паказвалі па тэлебачанні святочны канцэрт, уздымаліся келіхі, па горадзе, пільнуючы парадак, насіліся міліцэйскія машыны. А чатыры (!) аўтобусы з чарнобыльскімі дзецьмі ехалі нават без ніводнай машыны суправаджэння ДАІ. Аўтобус з дзецьмі не перакуліўся б, калі б улады сапраўды клапаціліся пра сваіх грамадзян, а не думалі пра тое, як хутчэй і лепш дагадзіць прэзідэнту.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета 13-га склікання, старшыня Вярхоўнага Савета С.Шарэцкі, кіраўніцтва Беларускага народнага фронту, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, іншых партыяў і грамадскіх рухаў, рабочыя шэрагу прадпрыемстваў звярнуліся да прэзідэнта А.Лукашэнкі з патрабаваннем адмяніць у гэтыя дні святочныя мерапрыемствы і абвясціць агульнанацыянальную жалобу. Але ўлады, цынічна ігнаруючы элементарныя маральныя нормы, звароты і патрабаванні людзей, разгарнулі святочнае шоў па поўнай праграме.

Чаму прэзідэнт і ягоныя прыспешнікі пайшлі на марнаванне велізарных сродкаў, так неабходных сёння нашай краіне? Чаму ў іх сэрцах не прачнулася пачуццё элементарнага спачування да тых, хто трапіў у бяду?

Святочнае шоў падчас нацыянальнай трагедыі — гэта красамоўнае сведчанне таго, што ў Беларусі ўтварыўся рэжым, для якога чалавек як асоба не існуе, людзей зноў ператвараюць у цагліны, з якіх цяпер ужо будуюць «слуп-вертыкаль» з прэзідэнтам на вяршыні.

Пры гэтым ідзе цынічная эксплуатацыя ўспамінаў пра вялікую перамогу над гітлераўскім фашызмам. Сапраўды знамянальная дата вызвалення Мінска ад гітлераўскіх захопнікаў ператворана Лукашэнкам у ягонае асабістае свята — так званы дзень рэспублікі. Гэта бессаромнае ігнараванне гістарычнай праўды, спроба падагнаць гісторыю пад сваю асобу.

Калі ў доме гора, то завешваюць люстэркі, не запальваюць яркае святло — ставяць свечку. У нашым Доме — Беларусі — велізарнае гора, страшнае і непапраўнае.

Тое, што ў апошнія гады адбываецца ў Беларусі (а менавіта разбурэнне дзяржавы, вынішчэнне нацыянальнай культуры і маральнасці беларускага народа), стала мажлівым па прычыне маўклівай згоды часткі так званай інтэлігенцыі і яе служэння дыктатару. Нас уражвае, як могуць творчыя людзі, асобы з абвостранымі пачуццямі годнасці, гонару, прымаць у гэтыя дні з царскага стала падачкі, ад якіх тхне сырой магілай. Як яны могуць выконваць святочныя ўверцюры, смяяцца і скакаць, калі чуюцца стогны, плач, галашэнне?!

Сорам і ганьба ўсім тым, хто не знайшоў мужнасці супрацьстаяць націску ўладаў і ўзяў удзел у мерапрыемствах, якія можна смела назваць балем падчас чумы. Мы ўпэўненыя — пройдзе час, і нашыя нашчадкі і гісторыя асудзяць маральнае гвалтаванне беларускай нацыі, здзек з гістарычнай памяці і годнасці беларускага народа, унясуць прысуд тым, хто парушае асноўныя прынцыпы і ўстоі Нашага Дома — Беларусі.

**С.ШАРЭЦКІ, В.БЫКАЎ, С.АНТОНЧЫК, І.АНУШКІН, А.АСТРОЎСКІ, М.АФАНАСЬЕЎ, Р.БАРАДУЛІН, Л.БАРШЧЭЎСКІ, У.БАШАРЫМАЎ, С.БАГДАНКЕВІЧ, А.БУХВОСТАЎ, С.БЯСТУЖАВА, Г.БЫКАЎ, А.ВОЛЬСКІ, В.ВЯЧОРКА, Р.ГАРЭЦКІ, В.ГЕРАСІМЕНКА, Н.ГІЛЕВІЧ, М.ГІРУЦЬ, У.ГЛОД, В.ГОЛУБЕЎ, М.ГРЫБ, М.ГРУШЭЎСКІ, А.ГРЫЦКЕВІЧ, Л.ГРАЗНОВА, А.ДАБРАВОЛЬСКІ, П.ДАНЭЙКА, М.ДЗЯМІДАЎ, М.ЗАМКАВЕНКА, В.ІПАТАВА, С.КАЛЯКІН, Г.КАРПЕНКА, Г.КІБЕРМАН, П.КРАЎЧАНКА, М.КРУКОЎСКІ, Т.МАНУКОВА, М.МАРКЕВІЧ, У.НАВАСЯД, І.НІКІТЧАНКА, У.НІСЦЮК, В.НОВІКАЎ, У.ПАДГОЛ, М.ПАСТУХОЎ, М.ПЛІСКА, Ф.РУСКЕВІЧ, М.САВІЦКІ, А.САЛАМОНАЎ, А.САННІКАЎ, В.СВЯЦКАЯ, Г.СЯМДЗЯНАВА, В.ТАРАСАЎ, А.ФЁДАРАЎ, В.ФІЛІПАЎ, Ю.ХАДЫКА, В.ХОМІЧ, В.ШЛЫНДЗІКАЎ, С.ШУШКЕВІЧ, В.ШЧУКІН, А.ГРУЗДЗІЛОВІЧ, А.МІКАЛАЙЧАНКА, В.ЦЫГАНКОЎ.**

## РАДКІ З ЛІСТОЎ

Президент Беларуси неоднократно выступал с гневными филиппиками в адрес Бориса Ельцина, Леонида Кравчука и Станислава Шушкевича, обвиняя их в развале СССР. Какая наивность! Ельцин подписывал Беловежское соглашение, искренне надеясь, что создание Содружества независимых государств позволит сохранить Российскую империю, которой на деле и являлся СССР. Помимо этого, Ельцин надеялся, что путем создания СНГ он наконец вырвет власть у Горбачева. То, что создание СНГ создало предпосылки для народов СССР обрести свою независимость, стало полной неожиданностью как для самого Ельцина, так и для всей политической элиты России, которая сразу же и открыто заговорила о необходимости воссоздания Российского государства, имея на самом деле воссоздание Российской империи.

**М.НИВОСЕЛЬСКИЙ,** *г. Минск*

Калі па радыё выступае лідэр «патрыятычнай тусоўкі» Сева Янчэўскі, дык пнецца пераканаць, які ён і ягоная арганізацыя харошыя. Ён заяўляе, што з прэзідэнтам «будет до конца», але не кажа, да якога. Відаць, у разуменні Янчэўскага слова патрыятызм звязана з лацінскім *pater* — «бацька», але зусім не з *patria* — «Бацькаўшчына».

**Сяржук СВЯТЛАНІЧ,**
*г. Брэст*

**БЕСПРЕДЕЛ**

# Министр внутренних дел задержал «преступника»

*Штраф за переход улицы в неположенном месте составляет сегодня 7,5 тыс. рублей. Но в нашем государстве это может стоить гораздо дороже, если переходить улицу перед министром*

Минчанин Владимир Лазаревич переходил проспект Дзержинского, как он сам признается, в неположенном месте. Парень находился на разделительной полосе, когда рядом с ним остановился автомобиль марки «Опель». Из машины выскочили двое: один был в камуфляжной форме, второй — в обыкновенной милицейской. В несколько мгновений со словами «Какого... ты тут ходишь?» неизвестные затолкали парня в машину и отвезли в отделение внутренних дел Московского района. Только при входе в здание Московского РОВД Владимиру удалось оглянуться и рассмотреть на погонах мужчины в камуфляже по одной большой звезде.

Происшествие с переходом улицы в РОВД назвали министерским делом, а изъятую у парня машину в ближайшие три месяца вернуть не обещают. Все свои действия работники правоохранительных органов объясняют приказом министра.

— Я даже слова не успел сказать, как оказался на переднем сиденьи автомобиля, — рассказывает Владимир Лазаревич. — Там лежали какие-то бумаги, я мог их помять, поэтому упирался. Шофер: «Есть, сэр!», «Да, сэр!» — привез нас к Московскому РОВДу, а там уже все стояли по стойке смирно. Меня вывели со словами: «Вот очень наглый молодой человек. Узнать — кто и доложить мне лично».

**— Во время задержания вам представились?**

— Нет. Только после того, как те, кто заталкивал меня в машину, уехали, а сотрудники РОВД спросили, чем я не угодил министру, мне стало ясно, что в машину меня заталкивал Аголец.

**— Грубили?**

— Нет. Я только дважды спросил: «Меня заталкивают в машину для того, чтобы оштрафовать за неправильный переход улицы?» Ведь я мог заплатить штраф на месте.

**— Вам объяснили, за что вас задержали?**

— Некоторое время спустя в РОВД пришел работник ГАИ и спросил, есть ли у меня деньги, и без лишних слов оторвал мне квитанцию на семь с половиной тысяч — штраф за переход улицы в неположенном месте. Но после этого меня не отпустили, а сказали, что все только начинается. Сначала выясняли мою личность. Причем паспорт в данном случае не рассматривался как документ — его проверяли на подлинность. Потом мне пришлось давать объяснение, что я делал возле здания ГАИ. И когда узнали, что там стоит моя машина, поехали за машиной. А машину я продавал и снимал в ГАИ с учета. Причем покупатель уже заплатил за нее задаток.

**— С каким количеством милиционеров вы познакомились за это время?**

— Все дежурные РОВД, следователь, специалист, который снимал отпечатки пальцев, начальник уголовного розыска, какой-то молодой лейтенант, начальник РОВД, начальник ГАИ... С десяток точно. Я сейчас прихожу, они все меня уже знают и «прикалываются». Солдату, который переписывает посетителей при входе, разрешают пропускать меня просто так: «Пропусти хлопца, он уже устал сюда ходить». А над лейтенантом, который поначалу выяснял обстоятельства перехода улицы, подсмеиваются: «Что, старина, министерским делом занимаешься?».



Владимир Лазаревич.



Валентин Аголец.

Такое впечатление, что сотрудники РОВД и ГАИ только тем и занимаются, что обслуживают прихоти министра, а не борются с реальными нарушителями. Владимир Лазаревич через день ходит в РОВД Московского района к следователю Сумиле. За содержание машины на штрафплощадке ему придется выложить немалую сумму — сутки стоянки стоят там 70 тысяч. Личность Владимира уже проверена — не судим, не привлекался, причастен не был. Экспертиза показала, что и в машине номера не перебиты. Но теперь посылается запрос в минское отделение Интерпола! И хоть эта организация находится где-то на соседней улице, в ближайшие три месяца Лазаревичу не советуют на что-то рассчитывать. И это при том, что за 10 минут до задержания представитель ГАИ проверял, не угнана ли машина: Владимир ведь официально снимал ее с учета.

А между тем дело продвигается, к нему подшиваются все необходимые документы. В Московский РОВД уже пришла бумага на задержание машины, подписанная кем-то в ГАИ республики. Кем? Ребята не знают. Они пробовали подать жалобу в прокуратуру Московского района, но, дочитав до слова «министр», бумагу тут же вернули обратно. Потом, после звонка из городской прокуратуры, взяли. Но в суд на министра подать все равно невозможно. Ведь сам Валентин Аголец ничего не подписывал, рапортов не составлял, поэтому ни к какой ответственности привлечен быть не может. Он просто привез молодого человека, как щенка, подобранного на проезжей части, и только потому, что он министр. В суд Владимир Лазаревич может подать на лейтенанта, который записывал объяснения, на начальника ГАИ, который доставлял машину, но не на самого обидчика.

**Ольга УЛЕВИЧ**
*еженедельник «Имя»*

## Кто же тормозит СВАБОДУ?

Уважаемая редакция СВАБОДЫ! Уже не первый год, я являюсь вашим постоянным подписчиком. Но в этом году все чаще и чаще стали пропадать номера СВАБОДЫ — они просто не доходят до меня. Почтальон нашей деревни и зав.отделением связи д.Озяты называли мне разные причины, но в конце концов я выяснил, что СВАБОДА не доходит до нашего райцентра Жабинка. Кто и на каком промежутке между Минском и Жабинкой решает, что мне можно читать, а что нельзя — я узнать не смог.

**Федор ЛИНКЕВИЧ,** *д.Сычево, Брестской обл.*

## «Запарожац» ацанілі даражэй за «Мерседэс»

Паважаная рэдакцыя! У траўні бягучага года ўпраўленнем аўтастаянак г.Мінска была ўведзена новая сістэма аплаты за месяц на ахоўваемай стаянцы. У выніку атрымалася, што я, уладальнік аўтамабіля «Запарожац» 1995 года выпуску, плачу за месяц 154 тысячы рублёў. А ўладальнік шыкоўнага лімузіна «Мерседэс-500» 1991 года выпуску плаціць за месяц 110 тысяч рублёў.

Пытанне: ці ўсё ў парадку ў гэтых людзей, якія распрацоўвалі дадзеную сістэму аплаты?

**ШЫДЛОЎСКІ Алег Станіслававіч,** *г.Мінск*

